# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ


### ПІСЬМЕННЫ НЕПІСЬМЕННЫ

*Пісьменны я ўжо здаўна*
*алфавіт свой знаю ад дзяцінства*
*з пачатку да канца*
*з канца да пачатку*
*ад А да Я*
*ад Я да А*

*Вычытаў я ў тысячах кніг*
*тысячы людзей мне гаварылі*
*дарога твая дарога адзіная*
*шляхам сваім ты ганарыся*

*А аднак*
*сёння на сонечнай дарозе*
*нечакана спатыкнуўся я аб камень*

*І не знаю чаму гэта здарылася*
*бо мела быць інакш*

*Пачынаю падазраваць*
*што яшчэ я непісьменны*
*пісьменны непісьменны*

*Ад сёння вывучаць ужо я буду*
*алфавіт каменняў*

**Юрка Баена**

* * *

згубіць кірунак дарогі
у хворыя гады
яшчэ раз шукаць сваіх вачэй
чым прамыць вочы

суседзі адплылі
а дзеці гуляюць са сляпой сабакай
аднак жа
сляпыя гады
сляпы сон
сляпое слова
накормленае хлуснёй сэрца
чым прамыць

адкуль куды ідзеш
глядзіш на сцены мудрасці
і муры непрабачэння
мужчынскі хор шукае слоў
бо ёсць
жывае мелодыя

што ўліць у далоні тваё
хоць гарызонт усё шырэйшы
выбар
не выбар
маўчанне

сцягнуць рэха праўдзівасці
глянуць можа першы раз
на жыццё

**Надзея Артымовіч**

### ЛІТУРГІЯ

*усё прайшло даўно*
*усё было далёка*
*служу літургію*
*нашаму каханню*
*нашы вялікія мары — царква*
*рэха тваіх слоў — рэліквія*
*памяць тваіх слоў — ікона*
*далячынь тваіх слоў — мадонна.*

**Міхась Андросюк**

### ЗБАВІЦЕЛЬ

раз
адзін раз
кожнае дзіця без бацькі
лічы
што Бог паслаў яго
Збавіцеля
на зямлю

толькі пазней
зразумее
што ён —
нежаданы плод
непрадуманага кахання

**Іштван Дабі**

* * *

*Устану*
*ў зялёных*
*росах,*
*Абмыюся*
*ў светлых*
*праменнях*
*І зноў —*
*буду свежым.*

**Юрка Трачук**

## АЛЕСЬ БАРСКІ: БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЕРШАЕ

Мая паэзія — мой абавязак,
Перад зямлёй і перад родным словам.
Стаяць паэмы і бяроз і вязаў,
Складаюцца на вечную аснову.
Айчына — незалежная ніколі,
Найбольшы з скарбаў, дадзены нам лёсам.
Вялікаю паэзіяй ёсць поле
І чыстаю паэзіяй — нябёсы.
І кожны гук, аддадзены чужому,
Ёсць ранай ў гаворцы маёй роднай;
Здаецца мне — не гаспадар я дома,
Здаецца мне, што я ўжо не свабодны.
Выходжу ў поле, кланяюся ніве,
Словы шапчу аб шчасці чалавечым
І толькі ў мове роднай я шчасліvы,
І толькі ў мове роднай буду вечны.

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ДРУГОЕ

Зноў паяўляюцца
На памяці экране
Мае каровы
Ў шкодзе па-за гумнам,
І, як Хрыстос узрадаваны,
Майскі ранак,
І ветру сіні сцяг



Па-над дзяцінствам шумным.
Калі паспела прамінуць?
— Я пратэстую!
Дзяцінства, маладосць
І гордыя завеі?
Кастрычнікі мае
У Бандарах сумуюць,
Рыхтуюць вопратку
Для пані-безнадзеі.
І ўсё бліжэй, усё бліжэй
Я чую крокі,
Трывогі набліжаюцца
Шырокай лавай.
О, свеце мой прыгожы,
Свеце мой шырокі,
Не кіну я цябе кахаць
Па смерці нават.

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ТРЭЦЯЕ

Пустапарожніх слоў
Нам хочацца, як хлеба.
А змест, чаму не ён
Лунае ў слове сцягам?
О, мова родная!
Ты веснавое неба
І без цябе сусвет заўсёды —
Горкай смагай.
Камедыянтаў многа
І сярод паэтаў,
Не зразумець ім праўды
Асноўнай і простай,
Што адначасна мы
Пясчынкі і планеты,
І даўжнікі перад айчынай,
І пагостам.
І ўсё жыццё
Павінна быць нам цяжка толькі.
Жыць лёгка —
Значыць подла жыць на свеце гэтым.
Шукаць заўжды
У форме й змесце толку,
Быць чалавекам —
І праз гэта стаць паэтам.

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧАЦВЕРТАЕ

Мы толькі больш-менш і жывем і кахаем,
Мы толькі прыблізна імкнемся да шчасця,
А лёс нас адзначыць і лёс пакарае,
У сэрцы запаліць і выгасіць страсці.
Галовы ў аблоках, а ногі на глебе,
Рукамі шукаем далоняў прыязных.
Надзеі мы хочам і прагнем мы хлеба,
А лёс нам прыносіць бяду пераважна.
Ды можа ёсць шчасце у вечных трывогах,
У горкіх памылках, балючых упадках...
І можаш сказаць ты, стаміўшысь з дарогі:
Які свет прыгожы, хаця лёс мой гадкі.

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЯТАЕ

„Чалавек — гучыць горда“,
Чалавек — гучыць подла.
Дзве праўды?
Дзве маны?
Дзве паўпраўды?
Адна праўда?
Адна мана?

### ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ШОСТАЕ

О, краю мой,
Твая зямля і твае травы,
І промняў дотык
Былі заўсёды,
Як салодкая страва,
Нібы наркотык.
І ў далёкім Лондане —
У гордым месце,
І ў Парыжы,
Чакаў я ад цябе
Заўжды салодкай весці,
Быў сэрцам бліжай
І з Эйфля вежы
Паглядаў у засмучэнні
На ўсход ружовы.
І маці бачыў
Прад іконай на каленях
З свяшчэнным словам.
І толькі у табе,
Зялёны, родны краю,
Мой лёс і шчасце,
І толькі у табе
Я горача жадаю —
Жыць і прапасці.



## СЫН У ВОДПУСК ПРЫЕХАЎ

Чакалі. Наталля штораз у акенца. Можа ідзе? Ужо і піражкі з капустай зварылі. Стаялі ў духоўцы. Булак з макам напякла. Каўбаса то ўжо і перасохла.

— Ты стары, — гаварыла яна мужу, — абы-чаго з'ясі, — хай яму будзе, там у войску няма.

— Няхай, няхай, — мармытаў мужык, — усё ж то сваё дзіця, не чужое.

А дні ўцякалі хутка. Раніца, поўдзень, вечар і зноў ноч. Сны невыразныя ды нервовыя сніліся. Вось ідзе. Вось стукае. Змучаны. Вочы на лоб вылазілі ад работы, гады старэчыя гнулі спіну. Мо прыедзе, паможа ў рабоце.

Чаканне перарадзілася ў непакой. Можа што здарылася? Барані Бог, захварэў. Маці ўжо пяты раз пякла тыя піражкі. Ды каўбасы пятае кальцо вешала над плітой. А яго не было.

Прыехаў, калі ніхто і не чакаў. Прывітаўся. Не пазнаць. Куды! — не той хлопец. Проста струна. Мундзір, бы ў афіцэра. Боты, бы люстэрка. Дух бабе заняло. Сляза радасці пацякла. Пабег мужык у хлеў да красулі, дзе бутэльку водкі хаваў. З хвалявання не мог знайсці. Рукі дрыжэлі. Красуля цікава паглядала, быццам насмейвалася.

Выпілі па чарцы. Наталля глядзела, ды вочы фартухом выцірала. У бацькі яны чамусьці памутнелі. Успомнілася ўсё мінулае. Але гутарка неяк не клеілася. На пытанні бацькоў сын адказваў таямніча. Выпіўшы яшчэ некалькі чарак, пайшоў спаць. А старыя ўдваіх, бы вартаўнікі, усю ноч стаялі.

Спаў да поўдня. Пабрыўшыся і добра выпіўшы, пайшоў сяброў наведаць. Вярнуўся апоўначы п'яны. Наталля плакала. Бедны. Галоўка баліць. Соду падавала. Кампрэсы клала. Зноў вартавалі. А дабытак? Свінні квічэлі. Красуля раўла. Ад'ехаў, нат не развітаўся. Накарміўшы жывёлу, мужык зваліўся на падлогу. Уначы навальніца надыйшла. Усё скошанае жыта змокла. А суседзі павазілі ў клуні. Дождж ліў дзесяць дзён. Плакала неба над лёсам ягоным. Плакаў і ён.

**Уладзімір Дваракоўскі**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДА СЯБРОЎ КАРЭСПАНДЭНТАЎ!

Набліжаецца да канца 1979 год. Кожны з нас будзе рабіць баланс сваёй працы. І мы, карэспандэнты, ізноў сустрэнемся на чарговым з'ездзе. Наш рэдактар ацэніць нашу працу, а мы ўключымся ў дыскусію. Каб стаць на вышыні пастаўленых перад намі задач, ужо зараз прапаную прадумаць пытанне: як я супрацоўнічаў з „Нівай", што павінен змяніць у далейшым супрацоўніцтве, як сам ацэньваю свае матэрыялы ды матэрыялы сваіх калег, а таксама прадумаць і свае прапановы ў адрас рэдакцыі. Калі прыедзем на сустрэчу так падрыхтаваныя, усебакова цікава і карысна пагаворым тады на тэмы, хвалюючыя нас. Ды нас няхай тады і ацэньваюць смела.

Да хуткай сустрэчы!

**Ул. Сідарук**

## ГЭЭСАЎСКІЯ ПАСЛУГІ БАГАТЫ

У 1972 годзе пры Гміннай спулдзельні ў Гайнаўцы была створана паслуговая майстэрня, якая знаходзіцца на вуліцы Бучка 15. Майстэрня вядзе паслугі па інсталяцыі цэнтральнага ацяплення, воднаканалізацыйныя, слёсарскія, кавальскія, млынарскія, грэмплярскія, шклярскія, сталярскія. Паслугі вядуцца для жыхароў горада і гмін Гайнаўка і Чыжы. У папярэднія гады наступіла вялікая дынаміка ўзросту паслуг. План быў выкананы ў 120%. У 1978 годзе за паслугі зарабіў ГС 6.400 тысяч зл. План паслуг на бягучы год прадбачыць 6.800 тысяч зл. За першае паўгоддзе выканалі яны паслуг на 4.110 тысяч зл. Хоць выступаюць цяжкасці ў матэрыялах, план гэтага года, як сказаў кіраўнік майстэрні Лех Канэцкі, будзе выкананы.

ГС вядзе восем майстэрняў, у якіх працуе 42 чалавекі. Да найлепшых майстэрняў можна залічыць рамонтна-будаўнічую групу, якой кіруе Іван Галёнка. На ўсе выкананыя працы ў сваіх майстэрнях ГС дае гадавую гарантыю.

**Э. Вайсковіч**



## У АДКАЗ ДЗЯДЗЬКУ КВАСУ НА ЯГО „АПОШНІ ВЕРШ У „НІВУ"

*Ты не злуйся, Дзядзька Квас,*
*Не пакідай усіх нас.*
*Час ад часу дай у „Ніву"*
*Нешта сваё жартаўліва.*
*Мы з табою па-суседску*
*Над адной жывем жа рэчкай.*
*Цябе людзі добра знаюць*
*І у „Ніве" паважаюць.*
*Як зазлуеш, то не вер.*
*Ты цяпер пенсіянер*
*І работы мала маеш,*
*Толькі ўнукаў забаўляеш.*
*Ты калісь быў ў „Ніве" першы,*
*Мы чыталі твае вершы.*
*Ой, прыгожа ты пісаў*
*(„Марка ногі паламаў"),*
*Закранаў ты бракаробаў,*
*Выганяў ты з іх хваробы,*
*Бюракратаў моцна біў,*
*Ты у „Ніве" адзін быў*
*(Ад цябе я навучыўся),*
*Часам вершам аб'явіўся.*
*„Ніва" вершы друкавала,*
*Цябе дабром успамінала.*
*Як паложыш ўнукаў спаці,*
*Пачынай вершы пісаці,*
*За пяро мацней бярыся,*
*Крытыкуй, не сараміся.*
*Дзед Кастусь цябе крануў?*
*Часам трэба, часам мус.*
*Хопіць, Дзядзька, ўжо злавацца,*
*Ляпей ў „Ніве" паяўляцца.*
*Як пакінеш пісаць ў „Ніву",*
*Ці тады будзеш шчаслівы?*
*І не гонар для ўсіх нас...*
*Сорам, сорам, Дзядзька Квас!*

**М. Лук'янюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Вельмі трагічны выпадак здарыўся на станцыі ПКП у Чаромсе. Чалавек з недалёкай вёскі Кузава, праходзячы чыгуначнымі рэйкамі, паваліўся, а ў той час якраз ехаў паравоз і наехаў на чалавека, які загінуў на месцы.

## ВЕЧАРЫНА

У бельскім Доме культуры з нагоды гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі адбылася ўрачыстая вечарына. Аб значэнні рэвалюцыі і ўплыве яе на прагрэсіўны сусветны рух гаварыў I сакратар гарадскога камітэта партыі Мікалай Хурса.

У мастацкай частцы выступілі вучнёўскія групы з вершамі і песнямі, між іншым, вучні беларускага ліцэя з Бельска. Вельмі спадабалася выступленне гарадскога хору „Васілёчкі" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. За свой прыгожы спеў хор атрымаў бурныя апладысменты бельскай публікі.

**Іван Кірызюк**

## ЗБІРАЦЬ НАРОДНУЮ СКАРБНІЦУ

Варта, каб рубрыка на сёмай старонцы „Нівы" пад загалоўкам „Наша пошта", дзе ў апошні час былі апублікаваны дзве песні, якія ходзяць у народзе: „Зайграй ты девчыно в зелёном садочку" і „Ты казала", не спыніла на гэтым такога роду публікацый. Трэба, каб чытачы далей дасылалі падобныя песні ў рэдакцыю. Такіх песень, хачу сказаць, ёсць многа, яны ходзяць у народзе і прыгожыя. Добра было б, каб яны не гінулі, бо гэта ж таксама народны скарб. Ёсць песні з міжваеннага часу, многа песень з перыяду апошняй вайны, але аўтараў іх ніхто не ведае. У нас гэтыя песні ходзяць пераважна на рускай мове, хоць не вельмі чыстай. Ды ёсць і беларускія песні на розных мясцовых гаворках.

Зацікавіла мяне з рубрыкі песня „Ты казала". Чуў я яе калісьці па радыё з Кіева — тая самая мелодыя была, на якую спяваюць і ў нас. Не было толькі радкоў „Кохана моя". Увогуле з'ява, як родзяцца і жывуць такія песні, вельмі цікавая і сведчыць аб неўміручым паэтычным і музычным таленце нашага народа.

**М. Панфілюк**

## ЗБАВІДОЎСКІЯ СПРАВЫ

Гмінны гурток ЗБоВіД у Суражы запрасіў сваіх членаў на агульны сход, на якім планавалі абмеркаваць многа членскіх спраў. У тую нядзелю і аўтобусаў мала хадзіла, ды ўсё ж такі і з суседніх сёл хто аўтобусам, а хто і пехатой, сабраліся. Аказалася, аднак, што з Ваяводскага праўлення з Беластока ніхто не прыехаў. Толькі падзякаваць тут трэба начальніку гміны Масціцкаму і сакратару гмінна-гарадскога камітэта ПАРП Кірыленку ў Суражы, што яны нашых сходаў ніколі не прапускаюць. Яны нам крыху расказалі, а сакратар гуртка прыняў ад некаторых членаў гадавыя складчыны, і на тым канец.

**Незнаёмы**

## ПРЫКЛАД ГРАМАДСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Калі начальнік Чаромхаўскай гміны прымаў рашэнне выкупіць стадолу і жылы дом ад селяніна з Волькі Тэрахоўскай, ужо тады думаў, якое даць ім назначэнне. З хатай не было клопатаў, горш з стадолай. На адным вясковым сходзе ў Вольцы начальнік гміны дае прапанову жыхарам вёскі прыняць будынак на святліцу. Верыў, што атрымае падтрымку ад сялян. І не памыліўся. Прапанова была прынята аднагалосна. Вульчане ў далейшым перадаюць гэтую справу моладзі. Аднак тая не апраўдвае даверу. Моладзь не патрапіла давесці памяшкання да належнага парадку, нават шыб у вокнах не было каму паставіць. Тады справу пераймаюць у свае рукі старэйшыя. Знайшліся людзі з грамадскай ініцыятывай. Да іх можна залічыць Анатоля Верамчука, Аляксандра Андрасюка, Віктара Багачука і Хведара Назарука. Яны прапануюць перавезці сваю святліцу ў другое месца і паставіць на новым фундаменце. Як сказалі, так і зрабілі. А дапамаглі ўсе жыхары вёскі.

— Так добра арганізаванай грамадскай працы, — гаворыць начальнік гміны Мікалай Тэлентэюк, — я даўно не бачыў на тэрыторыі нашай гміны. За некалькі дзён пабудавалі фундамент, а ў дзень грамадскага пачыну перавезлі, а потым зладзілі будынак. А ўсё гэта дзякуючы Анатолю Верамчуку.

І вось стаіць ужо святліца ў Вольцы Тэрахоўскай. Можна было б адкрыць тут клуб „Рух", ды не хапае памяшкання на склад тавараў. Яго трэба дабудаваць. І гэта людзі зробяць.

— Адкуль узялі грошы на святліцу? — пытаю ў начальніка.

— У 1976 годзе Волька заваявала I месца ў конкурсе „Вёска культурная і гаспадарная" і атрымала 30 тысяч зл. Зрабілі і вясковую складчыну. За мінулы год вёска зноў заваёўвае I месца ў тым жа конкурсе і атрымлівае зноў 30 тысяч зл. А ўсё іншае зрабілі вульчане грамадскім чынам. Для прыкладу можам сказаць, што Анатоль Верамчук сам рабіў сталярку без ніякай заплаты. Зараз кошт будынка ацэньваецца на 150 тысяч зл.

— А што зрабілі з стадолай?

— Стадолу мы перадалі гуртку паляўнічых. Так што ўсё выкарыстана жыхарамі гміны.

**Ул. Сідарук**

ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСВАЕ „НІВЫ"





## НАША ПОШТА

**Тамаш Кірылаў:** „Са смуткам прачытаў я ў „Адгалосках" („Ніва" № 39) словы інж. Рудкоўскіна: „Выхад моладзі з сяла з'яўляецца аднячасова і стратай самабытнасці беларускай меншасці". Мае бацькі таксама выехалі ў 1927 годзе ў Францыю, бо на тадышняй глыбоцкай зямлі і ўвогуле на ўсёй Віленшчыне не было прамысловасці, дзе б яны маглі атрымаць працу. Але і мая сям'я, і іншыя беларусы не сароміліся і там сваёй мовы ці нацыянальнасці. Наадварот, французы нас вельмі шанавалі за працавітасць і добрасумленнасць. Мы вучыліся ад французаў, але не забылі аб сваім паходжанні, аб звычаях продкаў, аб сваім народзе і мове.

Мова, на якой мне маці спявала калыханку, мова, якую мы чулі ў хаце, пакуль не пайшлі ў французскія школы, засталася мне самай дарагой, прыгожай і мілай. Паслухайце ж, як ёю ў далейшым ва ўсім свеце захапляюцца ў песнях „Песняроў"! Калі я іх чую, здаецца мне, што крылы вырастаюць мне і лячу я так на хвалях беларускай мелодыі над прыгожым светам. Крычу на ўвесь голас: „Песняры" яшчэ як „Лявоны" далі першы канцэрт у Глыбокім і спявалі нашу любімую песню: „Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець". Я ганаруся, што род мой беларускі. Я перакананы, што беларуская моладзь згаджаецца са мной у гэтым, дзе б яна не была — на фабрыках ці ва універсітэтах, ці гаспадарамі на вёсцы.

А цяпер пра мой выезд у Варашылаўград на запрашэнне калегі-украінца Аляксандра Малафеева. Я быў разам з ім у канцэнтрацыйным лагеры Бухенвальд, а потым нас разам вывезлі з транспартам 1500 вязняў у Францыю. Мы працавалі ў Хесдзін пры пабудове ўстаноўкі ракет V-1. Мы разам належалі да лагернай падпольнай арганізацыі. Я, як ведаючы французскую мову, па загаду арганізацыі ўцёк з месца працы да французскіх партызанаў у Бланжы-сюр-Тэрнуаз. Потым уцёк і Малафееў. Пасля вайны кожны з нас вярнуўся дамоў. Шмат гадоў я шукаў сваіх калег па лагеру. І вось у мінулым годзе атрымаў ліст ад Малафеева. Ён пісаў, што быў на сустрэчы ветэранаў вайны ў Ленінградзе і там атрымаў мой адрас. Я надта ўцешыўся. Мы пісалі адзін другому часта, а ў гэтым годзе ён запрасіў мяне да сябе на сустрэчу бухенвальдцаў. Ужо на пероне ў Варашылаўградзе прывітаў мяне Малафееў з бухенвальдцамі Дзмітрым Шчапанскім і Пятром Фрызам.

Варашылаўград — гэта амаль паўмільённы горад. Тут вялікая прамысловасць. Вырастаюць сучасныя жыллёвыя кварталы. Я паглядзеў шмат помнікаў барацьбітам Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Палажыў кветкі ля помніка героям з „Маладой гвардыі" і наведаў іх цудоўны музей. На будучы год запрашу сябру Малафеева да сябе. І ніколі не забуду сардэчных людзей з Варашылаўграда.

У апошні час я атрымаў ліст ад майго прыяцеля з Чыкага. Называецца ён Нікадзім Жызнеўскі родам з-пад Глыбокага. Лёс загнаў яго ў далёкую Амерыку, але сэрцам ён заўсёды з намі. Ён у сваім лісце хваліцца, што „Ніву" атрымлівае рэгулярна і любіць яе чытаць.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ДОБРАЕ САПСАВАЛІ, А ЛЕПШАГА НЕ ЗРАБІЛІ", „Ніва", № 35 (1227) ад 2 IX 79 г. і „СЁННЯ ПРАДСТАЎЛЯЕМ" „Ніва" № 32 (1224) ад 12 08 79.**

Адказвае: Z-CA NACZELNIKA MIASTA BIELSKA PODLASKIEGO.

W odpowiedzi na artykuł zamieszczony w czasopiśmie „Niwa", dotyczący przebudowy ulicy Gagarina oraz pijalni piwa przy ulicy Krynicznej w Bielsku Podlaskim uprzejmie wyjaśniam co następuje:

W związku z pilną potrzebą zamknięcia ulicy Mickiewicza na okres około 3—5 lat w celu wykonania pełnego uzbrojenia podziemnego, odbywający się ruch pieszy i kołowy zostanie skierowany ulicą Gagarina. W tym też celu przystąpiono do modernizacji ulicy Gagarina. Na podstawie opracowanej dokumentacji projektowo-kosztorysowej zerwano bruk z części jezdni celem wykonania kanału deszczowego. Kamień z rozbiórki został przekazany protokółem z odzysku dla PGKiM do przerobienia na gruzy.

Mając na uwadze odbywający się ruch do magazynów i terenów przemysłowo-składowych na odcinku od ulicy Żwirki i Wigury do Rejonowej została wykonana droga czasowa z płyt betonowych. Utwardzone zostały również wjazdy na posesje zakładów pracy, a istniejące doły zasypane gruzem i żwirem. Ulica na całej niezbędnej długości jest przejezdna.

W roku bieżącym został wykonany kanał deszczowy długości ponad 300 mb, zaś w m-cu wrześniu br. RBDiM przystąpił do utwardzania jezdni na długości około 600 mb.

W roku 1980 oraz w latach następnych ulica Gagarina będzie dalej zbrojona w kanał sanitarny F, sieć wodociągową, linię telekomunikacyjną, linię energetyczną, a następnie zostanie wykonane utwardzenie jezdni.

Modernizacja ulicy Gagarina realizowana jest sposobem gospodarczym, stąd też Urząd Miejski w Bielsku Podlaskim napotyka na poważne trudności w znalezieniu wykonawców na poszczególne roboty.

Ustosunkowując się do notatki w sprawie baru przy ul. Krynicznej pragnę poinformować Redakcję, że na terenie miasta Bielska Podlaskiego istnieje tylko jeden specjalistyczny zakład gastronomiczny, prowadzący sprzedaż piwa do spożycia w miejscu sprzedaży. Brak większej ilości tego typu zakładów powoduje, że w tej piwiarni przebywa znaczna ilość piwoszy. Ma to ujemny wpływ na utrzymanie należytego ładu i porządku, lecz nie w takim zakresie jak to podaje skarżący.

W zakładzie tym od dłuższego okresu czasu znajduje się napis na szkle okien wystawowych, który jest dostatecznie widoczny dla konsumentów. Dlatego uważam, że nie zachodzi konieczność umieszczania w piwiarni piwa dodatkowego szyldu.

Nadmieniam, że we wspomnianej piwiarni Oddział WSS „Społem" wprowadził sprzedaż bigosu oraz garmażerki, które stanowią tylko i wyłącznie uzupełnienie zaopatrzenia. Informuję ponadto, iż każdy przejezdny, jak i mieszkaniec miasta bez żadnych przeszkód może skonsumować bigos w innych zakładach gastronomicznych, do których zapraszają kierownicy i personel takich zakładów jak restauracja „Podlasianka" przy ulicy Mickiewicza i „Bielszczanka" przy ul. Kazimierzowskiej, Bar „Express" przy ul. kpt. Wysockiego oraz bar mleczny przy ul. Mickiewicza.

Uwzględniając jednak dalszą poprawę pracy piwiarni przy ul. Krynicznej pragnę poinformować, że wystąpiłem do Dyrekcji Oddziału WSS „Społem" z zaleceniem podjęcia niezbędnych przedsięwzięć w kierunku utrzymania należytego ładu i porządku na sali konsumpcyjnej, przestrzeganie ustawy o zwalczaniu alkoholizmu, zlikwidowanie nielegalnej gry w karty oraz reagowania personelu zatrudnionego w tym zakładzie na występujące przejawy zakłócania porządku przez piwoszy.

Ponadto nadmieniam, że przy współudziale Miejskiego Zespołu Związkowej Kontroli Społecznej w najbliższym czasie zostanie przeprowadzona kontrola wykonania zaleceń.

Z-ca Naczelnika Miasta
(—) Leoncjusz Parafiniuk

**Да публікацыі „ЛЮДЗІ ЕЗДЗЯЦЬ І НЯДЗЕЛЯМІ", „Ніва", № 38 (1230) ад 23 IX 79 г.**

Адказвае: DYREKCJA REJONOWA KOLEI PAŃSTWOWYCH W BIAŁYMSTOKU.

W związku z ukazaniem się krytycznej notatki prasowej pt. „Ludzie jeżdżą i w niedzielę", Dyrekcja informuje jak niżej:

Zgodnie z zarządzeniem Ministrów Handlu Wewnętrznego i Komunikacji nr 75/179 z dnia 6 czerwca 1961 r. na terenach kolejowych są upoważnione do przeprowadzenia działalności handlowej i gastronomicznej jednostki gospodarki uspołecznionej.

Zgodnie z cytowanym wyżej zarządzeniem na stacji Bielsk Podlaski był prowadzony do końca miesiąca sierpnia 1978 r. bufet przez „Społem" Wojewódzką Spółdzielnię Spożywców Oddział Bielsk Podlaski.

Z dniem 31 sierpnia 1978 r. „Społem" Wojewódzka Spółdzielnia Spożywców Oddział Bielsk Podlaski zrezygnowała z dalszego prowadzenia działalności gastronomicznej wymawiając umowę na dzierżawienie pomieszczeń z przeznaczeniem na bufet, który zaspokajał potrzeby podróżnych pod względem gastronomicznym.

Tut. Dyrekcja nie posiada żadnego wpływu na jednostki handlowe, które podjęłyby się prowadzenia działalności gastronomicznej na wspomnianej stacji. Takie możliwości posiadają terenowe organy administracji państwowej, które mogą wyznaczyć jednostkę do prowadzenia takiej działalności dla zaspokojenia niezbędnych potrzeb podróżnych.

Dyrektor
w/z
inż. Stefan Gul
zastępca

**Ад рэд.** Значыць, начальнік горада павінен гэтым заняцца.

Імпартгумар

# ДЗІКІ ЗАХАД

Ноч. Па вузкай дарозе, якая ішла праз густы лес, ехаў коннік. Ужо многа міль пакінуў ён ззаду, змарыўся, і галава яго раз-пораз хілілася на грудзі.

Раптам яго конь здрыгануўся і спыніўся, як укапаны.

— Стой! Рукі ўгору!

З гушчару выйшаў высокі вусаты мужчына з дзвюма кольтамі ў руках. Уцякаць было бескарысна. Заставалася толькі адно — здацца на літасць грабежніка. Грабежнік быў велікадушны: ён адабраў ад падарожніка каня, грошы, зброю і ўсё апошняе, пакінуўшы яму боты і сігару.

Разважаючы, як гэта прынята ў падобных выпадках, аб зменлівасці лёсу, абрабаваны насілу дабраўся да найбліжэйшай мясціны.

— Дзе ў вас суддзя? — спытаў ён у першага ж трапіўшага на вочы жыхара.

— Во ў тым доме, — паказаў праходжы, — ды вы наўрад ці зможаце з ім пагаварыць.

— Чаму?

— Таму што ўчора вечарам яго знайшлі забітым.

— Тады правядзіце мяне, калі ласка, да мэра.

— На жаль, і гэта немагчыма.

— Немагчыма?

— Так. Мэр арыштаваны сёння раніцой.

— Арыштаваны? За што?

— Высветлілася, што ён забіў суддзю.

— О Божа! Тады накіруйце мяне да шэрыфа.

— На жаль, і гэта немагчыма...

— Што, таксама забіты?

— Што вы, што вы! У яго якраз наадварот — цудоўнае здароўе. Ды зараз яго проста няма ў горадзе, уцёк у невядомым напрамку.

— Уцёк?!

— Так, з жонкай паліцэйскага і яго апчаднасцямі, назапашанымі за доўгія гады беззаганнай службы.

— Тады скажыце мне, калі ласка, дзе я магу знайсці вашага паліцэйскага. Спадзяюся, хоць ён на месцы...

— Так, ён павінен быць цяпер дома. Зараз я вас завяду.

I сапраўды, калі яны прыйшлі да паліцэйскага, той быў дома, а дакладней — у хляве. Падарожнік зазірнуў у хлеў, дзіка крыкнуў, выскачыў і куляй паімчаўся па галоўнай вуліцы мястэчка, пужаючы прахожых, сабак і коней. У яго былі ўсе падставы спяшацца, таму што паліцэйскі, высокі вусач, чысціў у гэты момант яго каня..

**Томас Уокінс (Англія)**



*Сямейная мадэль   Made in Zadrypanka.*





*Без слоў.*

## УЗОРНЫ БАЦЬКА

— Вы чаму выпіваеце ў рабочы час?

— Пасля работы нельга. Пасля работы я дзяцей выхоўваю.

## ЗДАГАДЛІВАЯ

Дзве мышы хітрыкамі заманілі слана ў падвал і зачынілі яго там.

— Ты заставайся вартаваць, а я збегаю за таварышамі, — пісьнула адна мыш.

Але калі яна прывяла падмогу, слана ў падвале ўжо не было.

— Ён збег, — сказала мыш-вартаўніца. — Я не магла спыніць яго.

— Не спрабуй мяне ашукаць! — закрычала першая мыш. — Я бачу, ты і цяпер яшчэ жуеш яго!

з „Весніка Задрыпоніі"

## РЭДКІЯ ПРАФЕСІІ

Нязвыклай справай займаецца інжынер Г. Сыраежка. За сваю працу ён атрымлівае не толькі цвёрды аклад, але і задавальненне.

## ПЫТАННЕ ЗАДРЫПШЫСАРА

Дзе ж узяць столькі думак, каб словам стала цесна?!



**Нічога не рабіў, але марыў нічога не рабіць за яшчэ больш высокую зарплату.**



## РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ



# ШУМНЫЯ БЯРОЗЫ

**СЛОВЫ Я. КУПАЛЫ**
**МУЗЫКА НАРОДНАЯ**

Шумныя бярозы пабяліў мароз,
Хацеў бы я плакаць, ды не маю слёз.
Хацеў бы я пеці аб сваёй бядзе,
Ды мне сэрца ные, песенька не йдзе.

Хацеў бы, каб воля гуляла са мной,
Каб сонейка грэла, як грэе вясной.
Але, Божа мілы, волі не відаць,
Кайданы няволі на руках звіняць.

Гэй, пайду я ў поле долечку шукаць
З востраю касою, як на сенажаць.
Ой, пайду я ў поле, як бы на вайну,
Шукаючы волю, шабелькай махну.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Затрымалі падазронага чалавека і дапытваюць у паліцыі:

— Што вы рабілі ў ноч з трэцяга на чацвертае верасня?

— Ах, мсье, няўжо вы не помніце? Я быў тут жа і адказваў на ваша пытанне, што я рабіў у ноч з пятага на шостае жніўня.

*

Шыкоўна апранутая дама доўга гартае рэкламныя праспекты ў турысцкім бюро.

—Мадам, ці магу я дапамагчы вам? — пытаецца служачы.

— Калі ласка, мы з мужам у апошнія гады аб'ездзілі практычна ўвесь свет, а цяпер хацелі б паехаць куды-небудзь яшчэ!

*

— Джэксан, што ў вас з рукой? — спытаў афіцэр, убачыўшы салдата з рукой у гіпсе.

— Я паламаў руку ў двух месцах, сэр.

— Будзьце асцярожней, надалей пазбягайце такіх месц.

## ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

— Скажыце, калі ласка, чаму вы заўсёды заказваеце ў нашай сталоўцы катлеты?

— Справа ў тым, што ўрачы забаранілі мне ўжываць мяса.

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

## У СУДЗЕ

Суддзя да падсуднага:

— А ты ведаеш, што твае ўчынкі пахнуць турмою?

— Скуль жа мне ведаць, пане суддзя, калі нос залажыла, што ніякага паху не чую.





## ВЯЛЬМОЖНЫЯ ПАРУШАЛЬНІКІ ЭТЫКІ

Не так даўно люксембургскія княжны Маргарыта і Марыя-Астрыт далі згоду на запрашэнне французаў наведаць баль, які меўся адбыцца непадалёку ад граніцы. Вяльможныя асобы грунтоўна рыхтаваліся да візіту. Многа было затрачана часу на рытуал апранання, зменена перад люстэркам не адна сукенка. дзесяткі разоў папраўляліся прычоскі. Жанчыны ёсць жанчыны, асабліва з высокапастаўленай сям'і. I якое ж было іх здзіўленне, калі раптам стала вядома, што ўвесь наяўны легкавы парк князя люксембургскага ў раз'ездзе па іншых справах і княжнам элементарна няма на чым ехаць. Што тут толькі было! Шум, крык, істэрыка. Тады на дапамогу пакрыўджаным жанчынам прыйшоў іх брат, які знайшоў выйсце вельмі простае. Ён дамовіўся з вядзіцелем звычайнага... аўтафургона і даімчаў пакрыўджаных сясцёр, куды трэба. Тыя ўжо ў дарозе перасталі гараваць, а калі іх шыкоўна і гасцінна сустрэлі на балі, і зусім супакоіліся.

А вось прыдворныя людзі, нават лакеі, не маглі ім гэтага дараваць. Такое нечуванае грубае парушэнне высокай этыкі: княжны, а паехалі ў звычайным аўтафургоне, у якім возяць... прадукты. Ды яшчэ паехалі без усялякіх лакеяў і нянек! I доўга гэты выпадак заставаўся прадметам разважанняў паміж імі. Што ж, відаць, у лакеяў таксама ёсць свае ўстойлівыя непарушныя погляды.



**Сем раз адмерай пасля таго, як адрэжаш.**